Цана асобнага нумару 20 гр.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# ГОЛАС ПРАЦЫ

Выходзіць два разы у тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэсу 30 гр.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаван. залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 грош. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 6 — Вільня, Аўторак 1-га траўня 1928 г. — Год 1

## Рэдакцыя шле прывітаньне працоўным м. Вільні і тых мясцовасьцяў, куды зайдзе яшчэ у гэты дзень газэта, з днем **сьвята працы — Першым Маем!**

**У зьвязку з сьвятам першага мая газэта выходзіць толькі на дзьвюх старонках. Наступны нумар выйдзе ў суботу нармальна.**

## Фразы і запраўднае аблічча сельсаюзьнікаў і хадэкаў.

У часе выбараў, калі трэба было прыцягнуць на свой бок выбіральнікаў, сельсаюзьніцкая і хадэцкая прэса брала проста жыўцом фразы (выразы) з беларускай радыкальнай прэсы. Гэтыя фразы па інэрцыі астаюцца пакуль што і цяпер. І вось заместа раней ужыванае фразы—беларусы — спатыкаем у гэтай прэсе ўсьцяж—працоўныя гушчы, праца, што яны стаяць на груньце абароны працоўных і г. д. Магчыма было-б думаць, што сельсаюзьнікі і хадэкі мала разумеюць значэньне кіданых фразаў, і хочуць так рабіць, як пішуць, што навет яны справядліва абражаюцца на беларускую радыкальную прэсу, калі апошняя называе іх угадоўцамі. Але калі прыглядзім паза фразамі да думак і паступаваньня названых беларускіх групаў, то ўбачым, што кожны іх шаг здраджае іх і паказвае іх запраўднае аблічча.

Нядаўна (№ 2 „Голасу Працы“) мы выказалі свой пагляд адносна шмат якіх разыходжаньняў і сьвядомага паразуменьня сельсаюзьнікамі і хадэкамі справы абароны інтарэсаў працоўных, але газэта якраз за гэтую стацьцю была канфіскавана. Перад намі цяпер № 27 „Сялянскай Нівы“, які характэрызуе нашых сельсаюзьнікаў у адношаньні да значэньня парляманцкага прадстаўніцтва. У перадавіцы „беларуская справа“ нейкі п. Засуліч, абгаварваючы справу ўзросту беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, прыпісвае гэта соймаваму прадстаўніцтву. У папярэдніх нумарох, як „Сял. Нівы“, гэтак і „Krynicy“ неяк чырвонаю ніткаю, навет з павышаным патосам, выказвалася вера ў Сойм, які прынясе нарэшце збаўленьне беларускаму народу. Паслы нашае правіцы бяруць чынны ўдзел у „творчай“ працы Сойму, яны паддзержваюць тых ці іншых кандыдатаў, адным словам—яны ў душы і запраўды „парлямэнтарысты“ і навет гардзяцца гэтым. Факт бязумоўна не падлягаючы сумляваньню, што сельсаюзьнікі і хадэкі вераць і ў сваё соймавае прадстаўніцтва і ў самы Сойм і падаграваюць ілюзіі ў гэта сваіх чытачоў.

А што такое Сойм узапраўды? Ці дае падставы на гэта хоць-бы суадношаньне сілаў у Сойме, ды ўрэшце—даны Сойм пры цяперашнім палажэньні?

Пастараемся быць кароткімі, каб адказаць на пытаньні ў аднэй стацьці.

Сойм ёсьць інстытуцыя, якую вытварыла фактычна буржуазія падчас змаганьня свайго з раней панаваўшай арыстакратыяй (і духавенствам). Як такая інстытуцыя, яна служыць пераважна інтарэсам буржуазіі. Выбары, навет з паціхвосткамі, урэшце-рэшт даюць перавагу ўсё-ж ей. Мы ня маем прыкладаў працоўных парлямантаў. Тады Сойм ёсьць па істоце буржуазная інстытуцыя, а як такая—ёсьць такой самай прыладай буржуазіі для панаваньня над працоўнымі, як і ўсялякая іншая яе „законная“ інстытуцыя. Быў час, калі навет павадыры працоўных думалі зрабіць Сойм сваей інстытуцыяй, паступова „заваяваўшы яе“. Але з бегам часу гэтая думка працоўнымі пакінута, засеўшы ў галаве толькі такіх „працоўных“, як шэйдэманаўцы, П. П. С-ы ды іншыя „ўгоднікі“, якія фактычна ня здольны да барацьбы, а дураць працоўных фразамі, як нашы сельсаюзьнікі і хадэкі.

Цяпер што да суадношаньняў сілаў у цяперашнім Сойме. Ведама, што ёсьць—правіца і „лявіца“ і што нібы навет „лявіца“ цяпер сільнейшая за правую палавіну. Дык у чым-жа справа? Можна зрабіць Сойм прыладай левых настрояў, скіраваць яго працу у бок забясьпечаньня інтарэсаў працоўных! Сельсаюзьнікі і хадэкі, відаць у гэта і вераць. Але, гэтая лявіца толькі здольная „кулакамі махаць“, накідацца на прадстаўнікоў працоўных ды ўцякаць з паседжаньняў, калі відная іхняя большасьць.

Усё-ж яшчэ большая недарэчнасьць Сойму выступае, калі прымем пад увагу абставіны, у якіх ён працуе. Па асновах канстытуцыі выходзіць, што Урад залежыць ад Сойму, які дыктуе яму сваё пастановы. Каб быў Урад пэўны, трэба яму мець сваю большасьць у Сойме. Інакш ён падаецца ў адстаўку. А ў нас што? Урад ня мае большасьці, а прытворная павадырка апазіцыі П.П.С., якая ў першыя дні крычала, што ня выкіне белага штандару згоды, цяпер вуснамі свайго павадыра і Маршалка Сойму п. Дашынскага ўвесь час трубіць аб супрацоўніцтве з Урадам. Дык выходзіць, што ня Урад мусіць прыпасоўвацца да Сойму, а наадварот.

Дык прычым-жа тут вера ў парлямант, парлямантарызм і г. д.? Што дасьць беларускім працоўным гушчам, гэты Сойм, які, ня гледзячы на сваё палажэньне „Государственной Думы“ — навет у сваім складзе здольны прымаць унёскі аб фактычнай выдачы беларускіх сялянска-работніцкіх паслоў суду (Стагановіч і Грэцкі)?

Скажам п. п. сельсаюзьнікам і хадэкам проста, што — або яны не заўважаюць розьніцы між тым, што пішуць і што робяць, або—сьвядома абманваюць сваіх выбіральнікаў пазычанымі фразамі. А запраўднае аблічча іх у гэтым выпадку, як і ў іншых, такое, якім назвала зусім слушна іх беларуская працоўная прэса — *згоднікі*! Будзем мець магчымасьць выказаць іх „шчырае“ адношаньне да справы абароны працоўных і пры іншых выпадках.

Хто чытаў уважна левую беларускую прэсу, той хіба ведае, як яна адносіцца да парляманцкай працы наагул і да цяперашняга Сойму прыватна. Ня будзем паўтарацца.

Мы верым у працу паміж самых працоўных гушчаў, верым у іх вызваленьне шляхам арганізацыі і барацьбы іх саміх. Гэтым і толькі гэтым шляхам рука ў руку з працоўнымі іншых народаў здабудуць яны і сваё сацыяльнае і сваё нацыянальнае права. Толькі гэтаму мы заўдзячваем ужо зроблены пасьпех і на нацыянальным груньце, які вы прыпісваеце парляманцкаму прадстаўніцту. Ніколі сельсаюзьніцкае і хадэцкае прадстаўніцтва не зрабіла-б гэтых пасьпехаў, а зрабілі гэтую працу толькі тыя прадстаўнікі, якія разумелі выказаную намі думку і вялі працу ў гэтым кірунку, бо гэта запраўды адзіны шлях перамогі, а соймавае прадстаўніцтва—гэта толькі адно з зьвёнаў у аграмадным коле барацьбы працоўных гушчаў і ў абліччы хмары буржуазных прадстаўнікоў і іх падгалоскаў можа толькі гаварыць праўду, зьвернёную да тых-жа працоўных гушчаў.

## З Пасольскага Клюбу «Змаганьне за інтарэсы сялян і работнікаў».

У зьвязку з адозвай клюбу аб надсыланьні ўсіх фактаў надужыцьцяў пры выбарах, да Клюбу зварачваюцца з просьбай прыслаць форму актаў аб гэтых надужыцьцях.

Клюб даводзіць да ведама, што спэцыяльных формаў для гэтага ня трэбуецца. Спэцыяльныя формы будуць патрэбны для камісіі, але яна павінна будзе дасьлядзіць справу на мясцох і зробіць належныя фармальнасьці сама. Пажадана было-б, каб да часу прыезду камісіі ўжо факты былі-б запісаны і пасьведчаны, каб проста здаць іх камісіі. Клюбу патрэбны толькі копіі, каб ні адна справа ня ўпушчана была-б камісіяй. Формы актаў могуць быць розныя—у залежнасьці, хто і як паведамляе: зьверху загаловак—каму адрасуецца, потым з слоў: „мы ніжэйпадпісаныя, прыймаючы пад увагу адозву Беларускага Пасольскага Клюбу „Змаганьня за інтарэсы сялян і работнікаў“, што да выбарных надужыцьцяў, гэтым даводзім да ведама „Камісіі па дасьледваньню надужыцьцяў пры выбарах“ і Беларускага Пасольскага Клюбу Змаганьня за інтарэсы......., што ў нашым выбарным абводзе.... (далей ідзе выклад самое справы).

Для самога Клюбу важны толькі самыя акты і ўсякая форма (пісьмо, карэспандэнцыя, паведамленьне)—будуць здаваляючыя, абы толькі была пэўнасьць, што гэта так запраўды было, дзеля гэтага пажадана было-б пасьведчаньне гмінай ці натарыюсам; але калі гэтага па мясцовых варунках зрабіць нельга, даволі пасьведчаньня подпісам солтыса, або сьведак, якія пэўна ж не адмовяцца пасьведчыць тое самае і перад камісіяй. Сьведкі патрэбны толькі ў такім выпадку, калі паведамляе якаясь адна асоба. Паведамленьне большага ліку асоб ужо зьяўляецца сьведчаньнем. Важна ў паведамленьні—месца, час і самы факт надужыцьця.

**Клюб „Змаганьня“.**

## Шляхотныя гутаркі вялікіх дзяржаваў аб „Вечным Міру“ ідуць усьцяж.

У справе так-званага „трактату вечнага міру“ паміж Амэрыкай і Францыяй ідзе ўжо даўжэйшы час запраўдная дыплёматычная дуэль (паядынак).

Як ведама, Францыя сама першая запрапанавала Амэрыцы заключэньне трактату вечнага міру. Амэрыканскі мін. загр. спраў Келлог — пасьля паўгоду развагі — адказаў адмовай, высунуўшы замест гэтага сваю прапазіцыю—супольнага трактату ўсіх вялікіх дзяржаваў—аб „вырачэньні назаўсёды ўсялякай вайны, як спосабу дзяржаўнай палітыкі“ (апроч СССР). Францыя згадзілася, але дадала, што ў трактаце павінна быць толькі засьцярога адносна абароннай вайны, якой ня можа-ж вырачыся народ, калі на яго нападзе іншы. Апрача таго, Францыя заявіла, што новы трактат ня можа спыніць сілу абавязкаў, накладзеных ужо на Францыю Лігай Нацыяў. Амэрыканскі ўрад зараз-жа адказаў, што—ня прымае ўсіх гэтых засьцярогаў Францыі і паўтарыў, што трактат павінен бязумоўна патапіць усялякую вайну, як міжнародавае праступленьне. Келлог — бяспрыкладны выпадак у гісторыі дыплёматычных перагавораў! — пасьля ўсіх гэтых засьцярогаў з боку Францыі і больш як паўгодавай перапіскі з ёй — разаслаў усім вялікім дзяржавам свой пякотны праект трактату, **не зьвяртаючы ўвагі на ўсе францускія папраўкі!** Тады Брыян тэлеграфна зьвярнуўся да ўсіх вялікіх дзяржаваў з просьбай, каб яны ўстрымаліся ад адказу Амэрыцы, пакуль не атрымаюць і францускага праекту трактату. У Англіі амэрыканская прапавіцыя выклікала часткай жарты, часткай недаверые. Прэса дасьціпна кажа, што, калі амэрыканскі ўрад вынайшаў сэкрэт, як захаваць вечны мір, дык было б папросту праступленьнем хаваць гэты сэкрэт ад усяго сьвету — а асаблівай дурніной цяпер—перад выбарамі прэзыдэнта...—Бо-ж пэўна, здабыўшая такі сэнсацыйны вынаход урадавая партыя (рэспубліканцы) напэўна выйграла-б выбары... Гэтым прэса падчырківае характэр амэрык. праекту, як прадвыбарнай рэклямы. Яшчэ больш ядавіта піша другая газэта. Яна кажа, што прапазіцыя прэзыдэнта Амэрыкі, можа, й паслужыць на карысьць Эўропе, але вось, ці будзе прынята... Амэрыкай, дык вельмі сумлiўна. А перадусім яна—небясьпечная самому прэзыдэнту Куліджу. — Бо-ж ужо быў такі выпадак: таксама і прэзыдэнт Вільсон кінуў Эўропе думку і праект міратворчай Лігі Нацыяў, але вось Амэрыка ня толькі адкінула сама гэтую Лігу, але яшчэ і скінула за яе праект і—прэзыдэнта Вільсона.

Другая частка прэсы англійскай пад націскам Чэмбэрлена з большай дыплёматычнай пашанай да Амэрыкі трактуе праект яе прэзыдэнта. Ці шчыра, гэта—іншае пытаньне. Гэтыя газэты стараюцца залагодзіць розьніцы паміж становішчам Амэрыкі і Францыі. І робяць гэта вельмі спрытна. Адна з газэтаў піша, што Статут Лігі нацыяў зусім не пярэчыць амэрыканскаму праекту, выключаючаму **„ўсялякую вайну, як спосаб дзяржаўнай палітыкі“**. Так кажа праект. Бо-ж і Статут Лігі дапускае вайну толькі проці дзяржавы, якая аднамысьльна прызнана Радай Лігі за праступніка-замахоўца, распачаўшага вайну. Дык, калі якая дзяржава, напр. Англія, прыме ўчасьце ў такой загаданай ёй вышэйшай—міжнародавай уладай вайне, дык такая вайна зусім ня будзе „спосабам дзяржаўнай палітыкі Англіі“, ня будзе навет зусім ваеннай, але будзе толькі — „актам паліцэйскай рэпрэсіі, прынятай на сябе дзяржавай зусім безінтарэсоўна, будзе „спосабам ці прыладам міжнародавай справядлівасьці“... Бо-ж быццам запраўды: калі якая дзяржава, ці група дзяржаваў, атрымае аднагалосна прынятае Радай Лігі даручэньне распачаць ваенную акцыю проці „напасьніка“, дык гэта акцыя павінна разглядацца, не як „спосаб дзяржаўнай палітыкі“ такой дзяржавы, але—як „спосаб выкананьня міжнародавай справядлівасьці“... Ці пераканаюць гэтыя спрытныя даводы англійскай прэсы паспорыўшых Амэрыку і Францыю, няведама. Апошнія весткі кажуць, што францускі ўрад ужо значна залагодзіў востра распачаўшыся паядынак, заявіўшы, што высунуў свой праек ня дзеля таго, каб заступіць ім амэрыканскі, але — каб абодва яны паслужылі падставай для дыскусіі і апрацаваньня трэцяга, — **кампрамісната.** Але Францыя, апрача таго, трэбуе, каб да трактату адразу маглі далучыцца, побач з вялікімі дзяржавамі, таксама і невялікія. Ці згодзіцца з гэтым Амэрыка, сумлiўна: бо-ж тады увесь імпэрыялістычны зьмест і смак усяго гэтага саюзу вялікіх дзяржаваў, які мае—побач з „Вечным мірам“ — падзяліць увесь сьвет паміж гэтымі вялікімі дзяржавамі, выпадае з гэтага праекту. А перадусім адпадае роля бяспрэчнага панаваньня Амэрыканскіх Штатаў у абедзьвюх Амэрыках, дзе Штаты сваім праектам абвяшчаюць сябе — адзінай вялікай дзяржавай. На чым скончыцца дыплёматычная дуэль паміж Францыяй і Амэрыкай, хутка, можа, й пабачым: калі скончацца выбары ў Амэрыцы, тады будзе відаць, ці ня была ўся гэтая сэнсацыйная прапазіцыя Амэрыкі запраўды толькі спрытным „козырам“ ды рэклямай у выбарнай ігры.

Бо-ж—як Амэрыка разумее зьмест слова „мір“, найлепш сьведчыць яе расправа з Нікарагуа'й, а нягоршай ілюстрацыяй гэтай міратворчай шчырасьці Амэрыкі зьяўляецца апошняя вестка—аб пасылцы ў Кітай 40 амэрыканскіх ваенных караблёў. 7000 амэрыканскіх жаўнэроў—ня горш, як у Нікарагуа „бароняць амэрыканскія інтарэсы ў Кітаі“.

